Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана 15 гр.

# НАША ВОЛЯ

БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ДВУТЫДНЁВЫ ЧАСАПІС

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вільня, Татарская вул. 15-1

Рэдакцыя прыймае: ад 8—10 і ад 14—16

Падпісная плата: у год 3 зл. за паў году 1,50 злот. квартальна 1 зл.

№ 3 (4) Вільня, 4 лютага 1936 г. Год I

## НА КУРСЫ.

Неграматнасьць на вёсцы прымае пагражаючыя разьмеры.

Кніга — гэты вялікі прыяцель чалавека — з кожным годам зьяўляецца ўсё болей рэдкім госьцем у селяніна.

Якая прычына?

Прычына не адна — іх многа.

Беларускія бібліятэкі - читальні, якія няслі іскарку сьвятла пад сялянскую страху, масава зачыняліся. На іх мейсца нічога не магло быць створана, бо тыя арганізацыі, накінутыя зьверху, якія імкнуцца заступіць мейсца беларускіх, мэты не дасягаюць па прычынам зусім зразумелым: калі беларуская арганізацыя ідзе да свайго народу з роднаю моваю, інакш кажучы, нясе культуру і грамату шляхамі даступнымі самаму цёмнаму селяніну, то аб іншых у беларускай вёсцы гэтага сказаць нельга. Пацьвержданьне нашай думкі мы знаходзім у словах Віленскага Школьнага Куратара, які прызнае, што толькі праз „uwzględnianie i posługiwanie się pomocnicze“ мясцовай мовай найлепей прышчапляць праўдзіва трывалую асьвету. Да гэтых слоў дадае свае дырэктывы працаўнічка Пазашкольнага Аддзелу Кураторыюма, пані Алёна Ромэр: трэба ісьці ад мовы „тутэйшай“ да польскай, а не лякераваце люднасьці польшчынай па верху, не заглядаючы што пад гэтай скарлупай крыецца. (Гл. „Кур. Вілен.“ 22.I. г. г., „Ясная школа“). За гэтымі славамі пані Ромэр, якая часта кідае сантымэнтальнымі фразамі ў бок нашай вёскі, крыецца яе галоўная ідэя — паланізацыя.

Наш народ гэта вычувае, дзе сьвядома, дзе падсьвядома, і рашуча ўхіляецца ад такіх арганізацыяў. Гэтым маўклівым пратэстам, гэтым, так сказаць, пасыўным адпорам толькі і можна вытлумачыць, чаму польскія арганізацыі, побач з польскімі пьесамі і песьнямі, часта даюць пьесы і песьні беларускія. На беларускае прадстаўленьне слухачы заўсёды знойдуцца, якія побач з беларускім праслухаюць і польскае. Такім чынам „праз увзглендняньне“ беларускага, пракладаецца дарога да польскага.

Далей, як ведама, і школьніцтва, не спрыючаецца да замацаваньня граматнасьці на вёсцы. Па выхадзе са школы праз год ці два малады хлапец ня можа чытаць нават па той польскай чытанцы, якую 4—5 гадоў „сылібізаваў“ у школе.

Апрача таго страшэнная беднасьць, пры якой селянін ня толькі кніжку, але солі купіць ня можа, таксама стаіць на перашкодзе да паглыбленьня граматнасьці на вёсцы.

Над такім сумным станам культуры і асьветы на нашай вёсцы павінна глыбака задумацца ўсё сьвядомае беларускае грамадзянства. Зразумела, поўнае вырашэньне гэтае пытаньне знойдзе толькі пры вырашэньні пытаньняў нацыянальнага наагул і сацыяльнага ў самым шырокім яго разуменьні. Але гэта яшчэ не азначае, што нічога ня трэба рабіць. Наадварот, цяперашні час вымагае асаблівай напружанасьці волі, арганізованасьці, сьвядомай адказнасьці за свае паступкі ці сваю бяздзейнасьць. Трэба рабіць, трэба працаваць, будзіць, усьведамляць.

Па нашаму вельмі добры пачын зрабіла ТБШ арганізуючы Агульнаадукацыйныя Курсы для дарослых. Энтузыязм моладзі, які гуртуецца, каля гэтай арганізацыі, знойдзе водгук у перадавой часткі нашага сялянства. Калі адзінка ня зможа падпісацца на курсы, то для некалькіх асоб у складчыну гэта зрабіць будзе ня трудна.

Кожны сьвядомы і добра граматны селянін павінен на сваё мейсца прыгатаваць найменей дзесяць также сьвядомых і добра граматных адзінак.

Наша беларуская моладзь падае селяніну сваю ахвярную руку. Гэтая рука не павінна пазастацца без усыціску мазольнай сялянскай далоні. Саюз працы, навукі і культуры — гэта наша будучыня.

Шлях да гэтай будучыні — адукацыя

## З беларускага жыцьця.

НОВЫ ЧАСАПІС. Друкуецца і хутка выйдзе ў сьвет першая кніжка літэратурна-грамадзка-навуковага часапісу (трохмесячніка) „Маладая Беларусь“, незалежнага органу маладых беларускіх поэтаў, літэратараў, культурных і навуковых працаўнікоў. Часапіс выдаецца ў складчыну. Найменьшая гадавая складка — 4 зл., на паўгода — 2 зл., на адну кніжку— 1 зл. Адна кніжка будзе абымаць найменьш 64 бач. друку. Пробныя нумары высылацца ня будуць. Адрас рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, вул. Савіч № 12-14.

„БЕЛАРУСКАЯ БОРЦЬ“ № 7 — месячнік зелярства і пчалярства за сьнежань месяц выйшаў з друку. Зьмест: што рабіць пчаляру ў зімовы час, хваробы і ворагі пчолаў, спажыўныя і лекарскія вартасьці мёду, пра садоўніцтва і іншыя.

КАНФІСКАТЫ. У студзені гэтага году сканфіскованы беларускія часапісы: „Наша Воля“ № 1, „Беларуская Крыніца“ № 3, „Новы Шлях“, орган беларускіх нацыянал-сацыялістаў № 1. За артыкулы па беларускаму пытаньню сканфіскованы польскі двутыднёвік „По просту“ і „Пшэглёнд Віленскі“.

ЛЕКЦЫЯ „Пачаткі гісторыі Беларусі“, ладжаная Бел. Ін. Гасп. і Культ. 19 студзеня, была забаронена Гарадзкім Старастай. Па атрыманьні дазволу тая-ж лекцыя адбылася 26-га.

СХОД РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ ХАДЭЦЫІ, скліканы на 19 студзеня дзеля разгляду новай праграмы і зьмены назову партыі на Беларускае Народнае Аб'еднаньне быў развязаны паліцыяй. Інтэрвэнцыя ў гэтай справе ў Старасты і Ваяводы пажаданых вынікаў не прынесла.

НОВЫЯ ПЕСЬНІ. Кампазытар А. Грэчанінаў надаслаў да Вільні 10 новых беларускіх народных песень, апрацаваных для солё, сьпеву і фортэп'яна. Уклад зроблены папулярна для сьпеву, але з мастацкім, як заўсёды ў Грэчанінава, акампаніямэнтам. Мэлёдыі і тэксты гэтых 10 песьняў паходзяць з паветаў: Аўгустоўскага, Сакольскага, Пружанскага і Косаўскага.

## З фронту афрыканскае вайны.

Як толькі спыніліся даждж і дарогі пачалі сохнуць, зноў распачаўся рух на фронтах італьянска - абісынскай вайны. На паўночным фронце ініцыятыва знаходзілася ў руках абісынцаў, якія развівалі дзейнасьць галоўным чынам у райёне Тэмбіену. Тут войска раса Кассы, каля 10.000 жаўнераў, прыблізілася на 20 кілямэтраў да Макальле і пагражала небясьпекаю італьянскай арміі, якая знаходзілася ў Макальле. Італьянскае камандаваньне накіравала дзеля гэтага калонну войска, каб акружыць абісынцаў і даць рашаючы бой. Рас Касса прыняў бой і выдаў загад аб нападзе на ворагаў. 21 студзеня пачалася бітва, якая прадаўжалася 4 дні. Адна і другая старана — як падаюць ангельскія крыніцы — не шкадавала ахвяраў у заўзятых бітвах. Страты ў абодвых вялікія. Італьянцам усё-ж удалося адбіць націск і, як падаюць афіцыяльныя італьянскія камунікаты, ачысьціць правінцыю Тэмбіен ад абісынцаў.

Гэтакім чынам італьянцы зьлківідавалі прарыў свайго фронту на р. Таказзэ і распачалі будову пазыцыяў на ўсёй лініі фронту. Лінія гэта мае быць няпрыступнай для абісінцаў, якія ня маюць артылерыі і танкаў, а італьянцы хочуць выкарыстаць яе для пэрыяду летніх даждж.оў.

На паўднёвым фронце італьянская армія, якой камандуе ген. Грацыяні, з посьпехам пасоўваецца наперад. Наступленьне сваё ген. Грацыяні пачаў ад Доло, — скрайняга пункту паўднёвага фронту, і вядзе ўдоўж рэк Ганале і Вэббэ-Шібэлі. Танкамі і самалётамі італьянцам удалося зламаць упор арміі раса Дэста. Абісынцы панеслі вялікія страты і адступілі ўбеспарадку. Італьянцы занялі правінцыю Борно з яе сталіцаю Нагельлі. Пасоўваючыся наперад армія ген. Грацыяні заняла мяйсцовасьць Малька Мурі, якая знаходзіцца амаль што на граніцы англійскае калёніі Кэнья.

Посьпехі італьянскай арміі, як прызнаюць вайсковыя спэцыялісты, ня маюць вялікага стратэгічнага значэньня, а больш палітычнае і маральнае. Італьянцам ня ўдаєца разгарнуць наступленьня на Адіс-Абэбу, бо хуткае пасоўваньне з досыць невялікімі сіламі ў глыбіню краю, крые ў сабе вялікую небясьпеку. Ці зможуць гэта выкарыстаць абісынцы будзе залежаць ад маральнага стану іх арміі. У кожным выпадку палажэньне на паўднёвым фронце стварылася вельмі вострае і магчымы розныя неспадзеўкі.

Як падаюць францускія крыніцы, італьянцы 18 студзеня бамбардавалі два разы абісынскі амбулянс каля Макальля.Кіраўнік амбулянсу аўстрыйскі дохтар Шуплер даносіць, што адзнакі Чырвонага Крыжа былі добра відныя і што італьянцы бамбардавалі амбулянс з нязвычайнай заўзятасьцю. Падчас бамбардаваньня было ранена 5 жанчын, якія знаходзіліся ў амбулянсе.

Абісынскі ўрад паведамляе, што італьянскія самалёты асабліва бамбардуюць гарады, якія ня маюць ніякае абароны. У апошнім тыдні італьянцы забілі 500 жанчын і дзяцей і 2500 штук рознае скаціны.

## Студэнты.

Маленькая газэтная вестка, але колькі яна часам гаворыць.

Вось такая для прыкладу:

Болей 1300 студэнтаў пачалі паход у глыб Кітаю. Гэтыя студэнты добра арганізаваны і падзелены на групы па 7 чалавек. Вядуць яны сярод насельніцтва прапаганду і клічуць да барацьбы з Японіяй і кітайскімі палітычнымі дзеячамі каторыя праводзяць японафільскую ўгадовую палітыку.

Так зразумелі сваё заданьне кітайскія студэнты.

Яны бачаць, што небясьпека пагражае іхняй краіне: японскія драпежнікі глыбака запусьцілі капцюры ў жывое цела іхняй бацькаўшчыны, адрываюць ад яе правінцыі...

Кітайскія студэнты, сапраўдныя сыны народу, ідуць, каб нясьці ў народныя масы сьвет праўды аб іх вызваленьні, клічуць да пратэсту супроць усякае ўгоды і здрады.

А вось іншы прыклад:

Ангельцы спрабавалі накінуць сваю волю і зьменьшыць правы Эгіпту. Паднялася бура пратэстаў і пачалося змаганьне. На чале дэмонстрантаў, якія выйшлі на вуліцу, каб бараніць сваю незалежнасьць, зноў-жа мы бачым студэнтаў.

Розныя бываюць студэнты.

Бываюць і такія, што „здабываюць сабе славу“ тым, што даносяць на сваіх беларускіх калегаў і вельмі баяцца, каб народ Беларускі не здабыў сабе незалежнасьці. Гэта віленскія „Моцарствоўцы“, якія загнезьдзіліся ў абшарніцкім „Слове“.

Іншыя зноў „праслаўляюцца“ тым, што б'юць сваіх жыдоўскіх калегаў, разьбіваюць крамы, — адным словам, распаўсюджваюць „культуру“, ад якой здалёку нясе фашысцоўскім духам.

А яшчэ іншыя выдаюць нават газэту „Бунт Млодых“. Гэта польскія абшарніцкія сынкі, у якіх сапраўды кроў бунтуецца... ад бяздзейнасьці. Хочацца ім, каб як хутчэй скончыўся гэты праклятыя мір, а пачалася вайна. (Эх, і мір-жа гэты, калі ўжо з усіх бакоў пахне порахам і дымам). Ваенным падпальшчыкам з „Бунту млодых“ вельмі залежыць на тым, каб Польшча пусьцілася ў паход па новыя землі.

Але ёсьць яшчэ асобная група маладых уталентаваных польскіх студэнтаў, якія публічна і адкрыта маюць адвагу казаць праўду аб Беларусі і Беларускім народзе. Гэта сапраўдны і шчырыя ідэйцы, якія прызнаюць нам і нашаму народу належныя правы.

Як бачым, розныя бываюць студэнты.

Куды, у якім напрамку схіляюцца сымпатыі беларускага студэнцтва і моладзі?

Мы не сумляваемся, што яны ня толькі прыхільна, але з гарачай любоўю стаяць па старане тых, хто ў першых радох ідзе змагацца за народную справу.

